Гарадзенская
# КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД

№005, ЧЭРВЕНЬ 2012

## АНОНСЫ



**Надзеі на амністыю ілюзорныя**



**Сябры БХД адзначылі 95-гадовы юбілей**



**Гарадзенскі сшытак інфармацыі**

**Пэўная частка грамадства лічыць, што фестываль Нацыянальных культур –гэта " Вялікая культурная імпрэза", другая наадварот, лічыць, што -гэта чарговы " інтэрнацыянальны шум".**

**Згодна Біблейскім запаветам і хрысціянскай маралі чальцы БХД да ідэі самога фестывалю ставяцца цярпіма і з паразуменнем.**

**Думкі нашых чытачоў падзяліліся, "бо на чужы раток ненакінеш платок".**




*Незалежнасць 20-ць год,*
*А, Айчына край прыгод.*
*Азавіся родным словам,*
*На цябе глядзяць сурова..*
*Так амапам адпрасуюць,*
*Целам год "падзяку " чуеш.*
*Вось наезжыя народы!*
*Ткуць свае тут карагоды.*

*Віхурай праляцела нам тры дні*
*Як фестывалю правілі агні.*
*Яны яднаў песняй, словам,*
*І хорам распявалі рознай мовай.*
*Хто меў за шчасце быць ў Гародні,*
*Мой горад кожнаму стаў родны.*
*Хадзілі разам і цыгане і татары*
*Сяброўству гонар, гонар парам.*
*Наш фестываль адзіны у Сусвеце,*
*Яго гісторыю чытай у інтэрнэце.*

*Віраваў у фарбах лета,*
*Аж дзівілася планета.*
*Фестываль усіх культур,*
*Эміграцкі чынны тур.*
*Дуды, гуслі, барабаны.*
*Ведай, Гродна непадмане.*
*І круцілася, знай шпарка,*
*Гарадзкая гаспадарка.*
*Ў унісон тут свой фальцэт*
*Слюніў Горадні бюджэт.*
*"Госці" слынна піравалі*
*І хвалілі, і жадалі.*
*І адкуль ўзяліся сродкі,*
*На пірог такі салодкі?*





# Ў калейдаскопе навін БХД



Каляндарная вясна і лета перыяд, які вымагае ад чальцоў партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі актыўнай дзейнасці. Непасталіся пазасправай і актывісты Абласной Рады БХД Гародні. У прыватнасці, гарадзенцы правялі вечарыну- сустрэчу з групай хрысціян-вандроўнікаў, што праводзць на тэрыторыі нашае Бацькаўшчыны акцыю пад назовам " Малітва за Беларусь".Напрацягу гадзіны тыя, хто прыйшоў на сустрэчу слухалі расповяды Уладзіміра Гомана, Сяржука Шэіна пра іх пакутлівы шлях да Бога. Найбольш шчыравала ў сваім аповядзе пра стасункі з хрысціянскай вераю ва Ўсявышняга спадарыня Юля. Яна давяла такую інфармацыю,што ёй было бачанне, аб тым, што яе прызывае Бог ва сваё ўлонне да місіянерскай справы. Спадарыня Юля перакакана, што калі за нашу Бацькаўшчыну стала згаворваць малітву, то Бог пачуе пакуты беларусаў. І па яго волі на нашай зямлі зазіхацяць справы праўды і свабоды, а дэманы, што руйнуюць душы людзей і праўда зыйдуць ў нябыт.

Як прыклад, выступоўца прыводзіла дзеі польскага незалежнага прафсаюза "Салідарнасць." І самахвярніка- ксяндза Папялюшка. Менавіта чын гэтага пакутніка за вольную Польшчу і пачуў Бог. І нашай заходняй краіне- суседцы сталася стаць краінай Еўрапейскай супольнасці, пазбавіцца чырвонага тэрору і спазнаць ўсе прывілеі еўрапейскай дэмакратыі і дзяржаўнага ладу. Напрыканцы ўсе разам спявалі знакамітыя творы руплі\u0301ўцы за беларускае адраджэнне Натальлі Арсеньевай " Магутны Божа " і іншыя.

**Дзеі чальцоў БХД ў кантэксце будучых выбаваў**

Пытанне выбараў, ці не галоўнае пытанне, што абмяркоўвалі сябры БХД на Цэнтральнай Радзе ў Менску.

Ініцыятыва сустаршынь аргкамітэту па байкоту выбараў, як паказалі менскія сустрэчы ня вельмі папулярная ў рэгіёнах. Сяброў партыі на месцах ня заўжды задавальняе статус назіральніка, яны прагнуць больш шырокага ўдзелу ў выбарчым працэсе. Аднак, пазіцыя кіраўніцтва БХД паслядоўная і выразная-ня ўдзел ў выбарах, ня ўдзел ў збіранні подпісаў за кандыдата ад іншай апазіцыйнай партыі, не вылучэнне сваёй кандыдатуры шляхам прамога збірання подпісаў. Дадаткова была засяроджана ўвага на канкрэтнай актывізацыі па тлумачэнні пазіцыі БХД да тэмы выбараў праз сетку сусветнай павуціны "Інтэрнэт". Даводзіліся слушныя прыклады такога пазітыўнага вопыту, як праца ў сацыяльных сетках інтэрнэт па развенчванні арэолу камуністых Малдовы. Вынік, вядомы. Добрым прыкладам актыву БХД на месцах павінен быць і вопыт працы каманды цяперашняга прэзідэнта ЗША Абамы, якая актыўна выкарыстоўвала сусветную павуціну ў прэзідэнцкай выбарчай гонцы пасля заканчэння двухтэрміновага прэзідэнцтва Буша-малодшага.

**Ад першакрыніц**



Вязень сумлення, багатыр праўдзення ідэй хрысціянскай дэмакратыі на Беларусі Павал Севярынец хутчэй за ўсё пазастанецца ў няволі.

Сам Павал лічыць, што яго абміне будучая амністыя паводле дзеяння якой з вязніц на свабоду выйдзе амаль 2800 асуджаных.

*Ты не адзін*
*Ты разам з намі.*
*Змагання шлях*
*Расцвіў вясной.*
*І салавейка*
*Не спявае з груганамі.*
*Любоў і праўда*
*Ўсё з табой.*

**Сутрэчы памяці**



Напрыканцы траўня сябры БХД Беларусі ўшанавалі 95-тыя ўгодкі заснавання і абвяшчэння Беларускай Хрысціянскай злучнасці. Таму ня менш насычанай за іншыя дзеі сталася і акцыя па ўшанаванню ўгодкаў- заснавання Беларускае Хрысціянскае Дэмакратыі, і першанозьбітаў –распаўсюднікаў ідэй БХД на зямлі бацькаўшчыны ксяндзоў - Станкевіча і Гадлеўскага. Менавіта дзякуючы высіл-

кам гэтых самаахвярнікаў зямля беларусі ў час ганенняў на хрысціянскую праўду, долю і волю насычалася ідэямі дабрыні, спагады, любові , свабоды, павагі, паразумення і шанавання чалавечай годнасці. За такі Богупрыемны чын ксяндзы- прапаведнікі скончылі жыццё пакутніцкай смерцю.

Іх жа памяць сучасныя паслядоўнікі ўшанавалі малітваю і запальваннем свечак ў гарадзенскім Фарным касцёле .

Пра тыя светлыя часы, на старонках нашага выдання, чытайце нататкі гісторыка Аляксея Сучаснага прысвечаныя чыну ўзнікнення ідэі Хрысціянскай дэмакратыі і , яе беларускіх традыцыях і шмат іншага, звязанага з высакародным шляхам-іспытам БХД.



**Перадумовы стварэння Хрысціянскага дэмакратычнага руху ў Эўропе**

Ваяўнічае 19-тае стагоддзе набліжалася да свайго завяршэння. Эўропа спазнаўшая ваенныя маршы Напалеона, Імперскія ваенныя дзеі царскай Расеі была абуджана да дэмакратычных перамен. Эўропа прагнула міру ,хрысціянскай чысціні і жыцця з Богам ў сэрцы. Менавіта ў Італіі - калысцы Рыма-каталіцкай царквы ксёндз Джовані Стурцо даўно быў апанаваны ідэяй стварэння партыі з Богам у сэрцы і хрысціянскім абліччам. Дзякуючы высілкам ксяндза Стурцо ў Італіі напрыканцы 19-га пачатку 20-га стагоддзяў была заснавана Каталіцкая партыя, якая і стала прадвесніцай ўплыву ідэй хрысціянскай дэмакратыі ў Эўропе. Першымі паслядоўнікамі справы ксяндза Джавані Сторца сталі каталікі і пратэстанты Нямеччыны, якія супольна заснавалі партыю пад назовам “Цэнтр”. І хоць ў Савеце партыі “ Цэнтр “ каталікі складалі меншасць, аднак верхавенства ўлады было ў іх руках.

Афіцыйны Ватыкан ня ўмешваўся ў справы асобных пастараў, але даваў ўсебаковую падтрымку ідэям распаўсюджвання хрысціянскай дэмакратыі. Вышэйшыя чыны Ватыкану лічылі гэтую Богамзапатрабаваную справу адмысловай місіянерскай дзейнасцю.

Ідэі партыі з хрысціянскімі каштоўнасцямі з часам запанавалі і ў астатніх рэгіёнах Эўрапейскага кантыненту. Не мінулі яны і зямель нашае Бацькаўшчыны.

Беларуская хрысціянская злучнасць (далей БХД) – беларускае нацыянальнае аб’яднанне, клерыкальная дэмакратычная беларуская нацыянальная партыя. Заснавана ў траўні 1917 г. ў Петраградзе. Ля вытокаў узнікнення БХД стаялі беларускія ксяндзы: В.Гадлеўскі, Ф.Абрантовіч, А.Станкевіч, А.Зязюля і інш. Першасная назва Хрысціянская Дэмакратычная Злучнасць (ХДЗ). Са студзеня 1936 г. беларуская нацыянальнае аб’яднанне (БНА).

Галоўную ўвагу ХДЗ надавала пытанням эканамічнага і палітычнага развіцця беларускага этнасу ў сувязі са зменамі, што адбыліся на міжнароднай арэне. У эканоміцы беларускія хрысціянскія дэмакраты адмаўлялі ў магчымасці вырашэння сацыяльных пытанняў шляхам пралетарскай рэвалюцыі. Яны лічылі, што ў дачыненні да беларускага народу за яго працавітасць і руплівасць рэвалюцыя ня мела сэнсу. Не пагаджаліся з існаваннем эксплуатуючых колаў, альбо класаў ў беларускім грамадстве. Аднымі з асноўных прычын сацыяльнага расслаення заснавальнікамі БХЗ бачыліся ў капіталістычным ладзе. Ў палітычнай частцы выступалі за наданне беларусам самастойнай палітычнай арганізацыі, не ў звязе з Расейскай ці Польскай дзяржавамі.

Арганізацыя мела невялікі ўплыў сярод сялянскага насельніцтва (асноўнай часткі беларускага народу). Вырашэнне гэтага пытання планавалася здзейсніць на падставе створанага ў чэрвені 1926 г. ў Вільні Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Сацыяльная база ад такіх прадуктыўных захадаў толькі б павялічылася. Аднак рухі з боку патаемнай польскай разведкі (дыфензівы) прывялі да расколу ў хрысціянскім дэмакратычным руху. БНА распалася на дзве плыні. Больш радыкальная частка-Беларускі народны фронт (БНФ), створаная В.Гадлеўскім заняла аўтарытарныя пазіцыі ў дачыненні да палітычнага лёсу беларускага народу праз дыктатуру. Дадзеная патрыятычная хваля была на карысць польскіх ўлад, якія забаранілі працу ўсіх беларускіх хрысціянскіх арганізацый. У 1939 г. Заходняя Беларусь был ўключана ў склад БССР. Многія члены БХД-БНА былі рэпрэсіраваны.



# Сшытак гарадзенскай інфармацыі

**Малы памежны рух і турыстычны бізнес**

Польскі памежны горад Аўгустоў стаў месцам сустрэчы беларускіх і польскіх бізнесоўцаў ад турызму. Удзельнікі сустрэчы адзначылі, што недапрацоўкі з беларускага боку сталі галоўнай прычынай таго, што канал ня ўключаны спіс сусветнай спадчыны ЮНЭСКА. Другая прычына, канал дагэтуль нельга назваць адзіным турыстычным маршрутам. Палякі працягваюць рэканструкцыю шлюзаў, і заўважаюць , што яшчэ і зараз непадпісана беларускапольскае пагадненне аб сумесным выкарыстанні воднага шляху на працягу агульнай часткі мяжы. Спецыялісты краіны-суседкі ўпэўнены, што інтэнсіўнасць турызму ўзрасце, калі будзе рэалізавана магчымасць бязвізавага руху на памежнай тэрыторыі.

На жаль, даводзіцца канстатаваць,што тое, што выканана польскім бокам, а гэта ратыфікацыя пагаднення аб малым памежным руху невыканана беларускім бокам. Усе фармальнасці выканаены, а мы ўсё чакаем аднекуль дазволу зрабіць тое, што адносіцца ў міжнародных справах і разуменнях да сферы мясцовага самакіравання. Таму, каб прыспешыць момант вырашэння пытання чальцы абласной філіі БХД Гародні распачалі збіраць подпісы дзеля паскарэння прыняцця станоўчага рашэння па гэтым надзённым пытанні, якое шальмуецца ў нашай краіне на самым высокім ўзроўні.

**У чыне памяці**

Актывісты гарадзенскай філіі БХД распачалі доўгатэрміновую акцыю па ўвекавечанні памяці ксяндзоў- заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі на зямлі Бацькаўшчыны Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

Яны збіраюць подпісы і рыхтуюць правядзенне акцый памяці з мэтай надання ў Гародні гістарычнага чыну айцам даўшым гістарычны шанец ідэям БХД на Беларусі . Мясцовыя бэхэдоўцы маюць на мэце перайменаванне ў гонар самаахвярнікаў і заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Злучнасці адной з вуліц горада . Гарадзенцы выказваюць намер актывізаваць настрой ня толькі асобных змагароў-каталікаў дзеля перайменаванне вуліцы Парыжскай камуны, што цягнецца ўздоўж святых муроў Бернардынскага касцёла і аўдыторый Рыма-каталіцкай семінарыі Гародні. Мерапрыемства плануецца зрабіць агульнаканфесійным з наданнем яму большага грамадзкага маштабу.

**Якой магла стаць Гародня**

Канферанцыйная зала Гарадзенскай абласной бібліятэкі імя Яўхіма Карскага стала месцам прызентацыі кнігі вядомага даследчыка лёсаносных падзей ў горадзе над Нёманам - Віктара Саяпіна “Архітэктура Гродна невыканаеыя праекты савецкага перыяду”. Аўтар у сваім выданні імкнецца азнаёміць гарадзенцаў з магчымымі пераменамі ў архітэктурным ансамблі горада, згодна распрацовак Менскіх, Маскоўскіх і Кіеўскіх архітэктараў ў перыяд, калі ў нашым горадзе назіраўся імклівы рост вытворча-прамысловага патэнцыялу. Даследванне было пабудавана наступным чынам. Віктар Юр’евіч падзяліў усе праекты на две часткі. Першыя звязаныя з пачаткам 1960-х гадоў малі на ўвазе поўнае знішчэнне гістарычнага цэнтра. Дадаткова меркавалася знесці Фарны касцёл. Наўзамен гэтаму тагачасныя “дойліды” вырашылі зрабіць два праспекты ва ўсходнім кірунку. Праекты рэканструкцыі горада 1973, а таксама 1987 гг. Неслі больш ліберальны напрамак. У 70-ыя гады хацелася ўбачыць Гародню ў якасці культурна-турыстычнага цэнтра. Архітэктары планавалі звязаць Каложскі парк і Лесапаркавую зону “Пышкі” ў адзіне комплекс. У пустэчы між вуліцамі Болдзіна і Каліноўскага пабудаваць крыты стадыён, а ў Каложскім парку ля былога палаца піянераў амфітэатр. Аднак многія фантастычныя ідэі савецкай эпохі так і засталіся ў пылу гісторыі.

**Святло Зямлі Беларускай**

Пад такой назвай трэці раз запар праходзіць рэспубліканскі круглы стол. Арганізатарамі і ўдзельнікамі яго з’яўляюцца выкладчыкі факультэта гісторыі і сацыялогіі Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я.Купалы і прадстаўнікі духоўнага кліру Праваслаўнай царквы Беларусі. Круглы стол прайшоў трэці раз і тэмай, якая была абмеркавана тут - гэта царкоўныя гісторыкі- краязнаўцы XIX – пачатку XX стст. Гісторыкі гарадзенскага універсітэта, што спецыялізуюцца ў вывучэнні вехаў развіцця, станаўлення і дзей хрысціянскай царквы на Беларусі спрабавалі разам са святарствам вывучыць стан, праблемы, кірункі і перспектывы даследвання. Сённешні круглы стол меў больш шырокі спіс удзельнікаў. У ім прымалі ўдзел святар грэка-каталіцкай царквы імя Маці Божай Фацімскай ў Гародні Андрэй Крот, протадыякан Павел Бубнаў, кандыдыт багаслоўя Менскай Духоўнай Акадэміі, святары з Гарадзенскай, Віцебскай і Магілёўскай эпархій. Сярод прачытаных дакладаў шмат увагі надавалася біяграфічным звесткам тутэйшых краязнаўцаў 19 стагоддзя: Даўгяла, Раманаву, іх ўклад у збор дакументаў, звестак аб асобных святых храмах і прыходах. Святар грэкакаталіцкай царквы Гародні свой навуковы даклад засяродзіў на пытанні ўключэння новых крыніц ў вывучэнне канфэсійнай

гісторыі. Андрэй Крот звярнуўся да такой рэчы як штогадавік "Закона Святога Васіля Вялікага". Вынікам праведзеных навуковых чытанняў сталі тыя высновы на падставе якіх гісторыкі і святарства будуць будаваць сваё навуковае супрацоўніцтва. Неабходнасць пашырэння першавытокавай базы, а таксама ўзаемадзеянне метадалагічнай структуры гістарычнай і тэалагічнай навук стануць новым накірункам у працы правядзення наступных круглых сталоў. Галоўным вынікам якіх павінна стаць выданне гісторыі Гарадзенскай эпархіі.

**Музей гісторыі рэлігіі ладзіць выставу беларускай традыцыйнай культуры**

Тэма экспазіцыі "З крыніц спрадвечных" паказаць ўмелае майстэрства беларусаў у вырабе, як сакральных каштоўнасцяў, так і рэчаў пастаяннага ўжытку. Як вядома, тагачасныя мастакі бралі сваё натхненне з вобразу канкрэтных людзкіх постацяў, прадметаў культу. На выставе можна бачыць каваныя крыжы, драўляную скульптуру, ручнікі, саламяную пластыку, жывапіс па шклу, і інш. Найбольшая глядацкая цікаўнасць-гэта экспануемы ўпершыню алтар выкананы ў сучасных тэхніках разьбы на пачатку 20 ст. Выстава будзе дзейнічаць да кастрычніка.

**Папаўненне беларускага войска**

Абласны прызыўны пункт стаў напрыканцы траўня цэнтральным месцам збору маладых людзей вобласці . Менавіта тут штодзённа збіралася па некалькі соцен юнакоў, каб быць адпраўленымі на тэрміновую вайсковую службу. Сёлетні прызыў амаль нічым не розніўся ад папярэдніх. Асноўным праблемным пытаннем спецыялістаў пазастаецца пытанне фізічна-псіхалагінага стану прызыўнога кантынгенту. Яго жаданні добрасумленна служыць абароне Айчыны.

Як згадваюць некаторыя прызыўнікі ў войска яны ідуць неахвотна, але маюць надзею, што там атрымаюць бязплатна ўліковую ваенную прафесію, якую потым выкарыстаюць ў паслявайсковым перыядзе жыцця.

**Шэнгенвіза за 700-т долараў ЗША**

Менавіта ў столькі ацэньваў сваю незаконную працу па судзеянню грамадзянам ў атрыманні таксзапатрабаванай імі шэнгенвізы малады жыхар Гародні. Гарадзенец шукаў сваіх добраахвотных ахвяр праз сетку інтэрнэт. Абяцаў ім дапамогу праз консульскі аддзел пасольства Іспаніі ў Маскве.

" Псеўдаспецыяліст" па аказанні консульскіх паслуг затрыманы. Па факту " махлярства" ўзбуджана крымінальная справа.

На жаль, асноўным ў гэткай гісторыі з"яўляецца фактар даверлівасці. А мы, як вядома, жывём у 21-м стагоддзі.

**"Мастак" пад следствам**

Гарадзенская міліцыя затрымала гора-мастака, які пры дапамозе металічных прадметаў наносіў незразумелы сімвал "GNK" на аўтамашынах, што належылі звычайным аўтааматарам. Пасля свайго затрымання 21-гадовы гарадзенец патлумачыў, што гэта абрывіятура расейскага дзяржаўнага наркакантролю.

Ўсяго гэты " спецыяліст" графіці папсаваў 35-ць легкавікоў розных мадэляў, ад звычайных жыгулёў, да эўрапейскіх марак.

Каб адрамантаваць наноў свае аўто ўладальнікам спатрэбіцца выкласці каля мільёна айчынных рублёў.

Па факту нанясення тэхнічных шкодаў аўтатранспарту, мясцовымі следчымі органамі ўзбуджана крымінальная справа. Псавальніку аўто пагражае да трох год турэмнага зняволення.

Дарэчы, такія графіці неадзіны выпадак парушэння законнасці.

Нядаўна галаўную боль адчувалі прыкладна ад такой " творчасці" іншыя ўладальнікі аўто. Менавіта іх сталёвыя коні сталі палатном "жывапісу" для дзевяцігадовай жыхаркі горада.

**Гандлёвае месца за сто мільёнаў**

Менавіта за права атрымаць арэндна-гандлёвае месца на ралетным міні-рынку па вуліцы Паліграфістаў ў Гародні, мясцовыя гандляры гатовы былі аддаць такую суму.

Нечаканага астранамічнага кошту дасягнула права арэнды боксаў на нядаўніх гандлях, што праводзіліся ў Гародні Цэнтрам нерухомасці.

**Вяртанне да вытокаў**

Памяці знакамітага земляка-мастака Напалеона Орды ў Гародні на вуліцы Савецкай прайшла выстава мясцовых творцаў.

Увазе дасціпнага гледача дэманстраваліся творы самай рознай тэматыкі.

Аздобілі свята-памяці артысты мясцовых самадзейных калектываў.

Само мерапрыемства праходзіла ў межах праграмы " жывая гісторыя".

**Браканьерства квітнее**

Лідчук, які ў пагоні за прыбыткам забыўся пра элементарны закон не губіць прыроду, затрыманы раённай інспекцыяй аховы навакольнага асяроддзя.

Ў сеці браканьера трапіла больш за паўцэнтнера самай разнастайнай рыбы. Ўрон навакольнаму асяроддзю склаў больш за 12 мільёнаў рублёў.

Палоў рыбы- гэта неадзіны від браканьерства падчас вясеннелетняга перыяду. На Гарадзеншчыне ёсць шмат ахвотнікаў ласавацца яечняй прыгатаванай з яек дзікіх птушак, наносяць шкоды навакольнаму асяроддзю і " спецыялісты" так званага ціхага палявання. Ў расстаўленыя імі петлі і іншыя паляўнічыя прыстасаванні нярэдка трапляюць гатункі птушак і звяркоў занесеных ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

**Служба выратавання дае напамін.**

Лета доўгачаканы час. Мы ўсе спяшаем добра адпачыць набрацца сілаў, супакоіць неярвовую сістэму, наталіць свой арганізм цудатворнай сілай прыроды.. Хтосьці адпраўляецца на адпачынак да марскіх хваляў, нехта разам з сям"ёй ідзе ў далёкую вандроўку , ёсць і такія, хто аддае перавагу мясцовай прыродзе і адпачынку сам-насам.

Аднак, для ўсіх аматараў такіх збліжэнняў з навакольным асяроддзем служба Міністэрства па Надзвычайных Сітуацыях дае напамін, што на прыродзе неабходна весці сябе годна. Найперш, максімальна захаваць тыя, некранутыя куточкі прыроды, дзе ты пабываў . І гэтае абавязковае правіла неабходна выконваць з гонарам. Бездухоўнасць прыводзіць да непапраўнага , калі здараецца пажар, ці іншая тэхнагенная сітуацыя па нашай віне на ўлонні прыроды, то вядома, што церпяць ўсе разам. Летась служба выратавання зафіксавала больш дзесяці такіх выпадкаў.

**Дзяржатаінспекцыя і яе рэкамендацыі.**

Лета адмысловы час года. З захапленнем назіраем, як на палях са сваёй тэхнікай шчыруюць аграпрамыслоўцы.

Якіх толькі сельгасмашын, агрэгатаў для касавіцы ранніх траў і апрацоўкі глебы няўбачыш ў гэты час на дарогах. Не залюбавацца такімі экзатычнымі воламі нельга.

Аднак неабходна помніць, што мінаючы такі транспарт вадзіцель вельмі павінен быць пільным.

Сельгастэхніка ў сваёй большасці - гэта нестандартныя віды транспарту на аўтатрасах. Іх ваджэнне выклікае шмат ўмення ад кіроўцаў. І толькі той, хто памятае запавет Божы "Беражонага Бог беражэ" можа пазаставацца ў адноснай бяспецы ад ДТЗ. Як канстатуюць спецыялісты ДАІ, найбольш небяспечны час сутак-гэта золак і сумерак вечара.

# Стосы скаргаў і хрысціянская мараль

Памятаю, яшчэ будучы карэспандэнтам газеты " Пагоня " любіў разбірацца ў скаргах звычайных грамадзян, ў якіх яны спрабавалі даказаць сваю праўду.

Няўдзячная гэта справа перабіраць стосы допісаў. Ураджанне такое, як нібыта вошкаешся голымі рукамі ў чужой бруднай бялізне. Пах невыносны ад дакранання да гэткіх " фаліянтаў".

Вось і ў выпадку са скаргамі пенсіянера Міністэрства абароны Валеры Ціханава з Ваўкавыску патыхае тым жа самым. Хто і калі змог перамагчы бюракратычную машыну, калі яна адладжана? Пры скрупулёзным пошуку можна знайсці аднаго двух пераможцаў на тысячы зваротаў шукальнікаў праўды. І справа тут не ў нежаданні чыноўнікаў. Справа ў іншым- " Цягнік адыйшоў". А гэта значыць неабходна адэкватна ведаць сістэму ў якой жывеш, хвалюешся, ствараеш. Сістэма простая, яна планавая. Сродкі размеркаваныя. І калі ты несвоечасова заўважых хіб ў працы будаўнікоў, медыкаў, педагогаў, то вяртацца ў мінуўшчыну па вашых заўвагах ніякі чыноўнік непажадае. Таму, што ён ужо мае іншыя загады, распараджэнні і ня мае тых жа распараджэнняў займацца вашай, даўно мінуўшай па іх разуменню справай. Ён жа на дзяржаўнай службе. Яго прыспешваюць новымі планамі-загадамі зверху. І іх ён павінен выканаць.Што яму чыйсці дыскамфорт? Ён дбае за свой інтарэс пазастацца на службе да пенсіі. Такія падыходы традыцыйны эпосе часоў " застойнага перыяду". Зыходзячы з гэтага згадайце сабе самі, што змянілася ў нашым жыцці з таго часу? Мы сталі яшчэ больш закасцянелымі ў праблеме хуткага рэагавання на чыесці скаргі, заўвагі.Няма жадання будзіраваць праблему, бо начальства так фыркне, што мала не падасца. Трапіць ў няміласць начальству-гэта першасная перспектыва апынуцца незапатрабаваным, а там падпісанне яго вялікасці кантракту.

Таму, калі і зараз сустракаю людзей, што ходзяць ад ўстановы да ўстановы і жадаюць нешта даказаць, некага пакараць, смяюся. Хто і калі пакараў дзяржаўнага служку? Былі выпадкі, але іх называюць "Ход канём". Выпусцілі пару па набалеламу, закрылі пытанне –скаргу, і сядзі чынуша ціха не будзі ліха, пакуль зверху ня кідаюць злы пагляд непаразумення на запатрабаванні палепшыць, дарабіці, адрэгуляваць. Тыя, хто яшчэ няўцяміў гэткія прапісныя ісціны трацяць час і здароўе, складаюць тоўстыя тамы скаргаў, і, як, да апошняй інстанцыі ідуць да чацвёртай ўлады, шукаць дапамогі. Што можа мас-медыа? Выслухаць, пахадзіць таксама па высокіх кабінетах і ўрэшце –рэшт зразумець, што плёткай абух неперасячэш. Трэба мяняць сістэму ўлады, ўдасканаліць яе. Ствараць інстытуты праў чалавека, грамадзяніна. Але прадстаўнік таго ці іншага сродка інфармацыі разумее , на гэта неабходна шмат часу, каб грамадства душой і сэрцам успрымала хрысціянскія каштоўнасці " дапамажы бліжняму", " не нашкодзь". Перад табой чалавек створана па вобразу і падабенству Тварца Ўсявышняга. Ён пад яго аховай і абаронай, а калі нейкі чыноўнік забыўся на гэта, няхай пачытае Запавет Божы. А там чорным па беламу " Вера без Богаўгоднай справы мёртвая ёсць", як і давер без адэкватных дабрачынных спраў таксама нагадвае заўчаснага нябожчыка. А яшчэ ўсім нам неабходна помніць, што за нашы грамадзкія, службовыя, жыццёвыя дзеі будуць адказваць нашыя ж нашчадкі нават ў сёмым пакаленні.

# Справы канфесійныя

## Гародня багацее новымі хрысціянскімі храмамі

Ні кожны гарадзенец ставіць сабе задачу адшукаць на карце горада месцы, дзе знаходзяцца, альбо будуюцца святыя храмы.

Менавіта і ў выпадку з пабудовай, лепш рэстаўрацыяй ў горадзе над Нёманам Душпастарскага цэнтра мясцовымі вуніятамі ў гістарычнай частцы Гародні не выклікае ў сярэднестатыстычнага гарадзенца асаблівай ўвагі.

Гарадзенцы, госці горада праходзяць азіраюцца на тых, хто вядзе аздабленне святой будыніны і крочаць сабе далей, ўглыбіўшыся ў свае думкі-праблемы. А рэстаўрацыя будынка вядзецца ў бойкім месцы непадалёк двара гарадзенскай пасменнай школы № 1.

Сам жа Душпастарскі цэнтр згодна задуме духаўніка мясцовай дыяспары вуніятаў Андрэя Крата павінен быў адчыніць свае дзверы якраз ў дні, калі старажытную Гародню апануюць ўдзельнікі чарговага фестывалю Нацыянальных культур .На жаль, не выйшла па задуме святара. І ён не адчайваецца, бо лічыць, што Богамзапатрабаваныя справы неабходна рабіць грунтоўна і надзейна.

Гэта так, пасля рэканструкцыі тут будзе працаваць і школка, і вернікі змогуць прыйсці памаліцца, паслухаць імшу, натхніць сябе на высакародныя хрысціянскія ўчынкі.

Што складае асаблівы гонар вуніята-святара. Дык толькі той факт, што адбудоўваецца гістарычная праўда і будуецца святы храм на ахвяраванні добразычліўцаў, без значнай фінансавай дапамогі мясцовай вертыкалі.

## Кніга грэка-каталіцкай царквы Ліды

У абласной навуковай бібіліятэцы імя Я.Карскага адбылася прэзентацыя кнігі лідскага краязнаўцы Лявона Лаўрэша “Грэка-ката - ліцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне”. Гэта першае ў Беларусі выданне, што прысвечана дзейнасці асобнай грэка-каталіцкай парафіі. У сваёй працы аўтар паглыбіўся ў канфесіянальную гісторыю Лідчыны. Першую частку ён прысвяціў станаўленню хрысціянскай царквы ў рэгіёне. Больш значная палова кнігі- гэта гісторыя ўніяцкай царквы на Лідчыне ў XVI-XIX ст. У ёй Лявон Лаўрэш у асноўным займаецца архітэктурнагістарычным апісаннем сакральных пабудоў. Не забыў даследчык ўзгадаць і аб лідскім шляху рэфарматара і скасавальніка уніяцкай царквы мітрапаліта В.Сямашка. У заключэнні краязнавец гаворыць аб адраджэнні грэка-каталіцкай царквы ў Лідзе з 1994 года і яе сённешнім стане. Парафія з’яўляецца афіцыйна зарэгістраванай суполкай вернікаў, якая налічвае каля 100 прыхаджан.

## Парафіяна Рыма-каталіцкай дыяцэзіі

Першы месяц лета стане для юных прыхаджан Рыма-каталіцкай дыяцэзіі Гарадзеншчыны сапраўдным святам вандровак ў цудоўную краіну “Тэалогію”.

Напрацягу чатырох дзён юныя вернікі будуць вывучаць катэхізіс, бавіць час у цікавых вандроўках, звязаных з вехамі станаўлення, развіцця і сучаснай існасці гісторыі Рыма-каталіцкай царквы ў Прынёманскім краі.

Ня менш турбот выяўляе духоўнае кіраўніцтва дыяцэзіі і да студэнцкай моладзі. Для іх духоўнай трываласці, дзе павінны панаваць высновы хрысціянскай маралі і этыкі, кожны чацвер а 19-тай гадзіне ў святым касцёле Брыгітак абласнога цэнтра праводзіцца імша. Выключэнне складаюць толькі тыя дні , калі студэнты і навучэнцы каледжаў знаходзяцца на канікулах.

Запамінальнымі атрымаліся ў Гародні і музычныя сустрэчы, што ладзяцца непрыўладнай часткай Звязу палякаў Беларусі. Ў прыватнасці, ў горадзе над Нёманам прайшоў чацвёрты фестываль польскай песні прысвечаны заканчэнню навучальнага года ў школах.

Дарэчы,ўладныя адмовілі і ініцыятыве гарадзенскіх палякаў аб правядзенні акцыі па збору подпісаў, дзе асноўным пытаннем ставілася выключэнне рускамоўных гадзін выкладання агульнаадукацыйных дысцыплін ў школьных класах, дзе навучанне вядзецца на польскай мове. Ў адказ група ініцыятараў вырашыла правесці акцыю пратэсту. Пратэстуючыя апынуліся ў міліцэйскім пастырунку.

З нагоды арэштаў змагароў за роднае, актыў абласной Рады БХД аб”явіў падтрымку і салідарнасць з пакаранымі. Чальцам Рады вядома негатыўнае стаўленне ўладных да ўсяго роднага, беларускага. Выключэннем ня стала і пытанне польскай часткі грамадзян Гародні.Таму, абласная філія БХД патрабуе спыніць пераслед пратэстуючых. Даць кожнаму грамадзяніну свабодна выказаць сваё стаўленне да захадаў, што абмяжоўваюць свабоду асобы і выклікаюць негатыўны пратэст душы грамадзяніна. Насільле пабуджае адэкватныя меры супраціву , што супярэчыць хрысціянскім запаветам і маралі.

## Святочна-веснавыя дні праваслаўных

Шмат цікавых мерапрыемстваў правялі і святары Праваслаўнай царквы Гародні. Імі была арганізавана паездка да святых Жыровіцкіх храмаў , дзе кожны веруючы змог ўзяць удзел ў набажэнствах звязаных з цудоўным з”яўленнем абраза Багародзіцы на грушы маладым пастушкам , што пасвілі свае статкі на Жыровіцкіх пашах. Яшчэ праваслаўныя вернікі адзначылі вялікае свята звязанае з імем Міколы Цудатворцы, аддалі чын вернасці і хвалы адмысловаму святу Ўзнясення на нябёсы на саракавы дзень пасля Вялікдзеня Выратавальніка- Ісуса Хрыста .Чэрвень таксама прынёс праваслаўным адно з найбош паважаных і гістарычна вялікіх свят. Адмыслова на пяцідзесяты дзень пасля Ўваскрашэння Гасподняга верныя сяткуюць свята Вялікай Троіцы з”яўленне Бога, Сына Гасподняга і Духа Святога.

# Хрысціянскія храмы сярэднявечнай Гародні

**Маўклівымі сведкамі гісторыі з'яўляюцца храмы і помнікі старажытнага дойлідства. Хрысціянскія храмы ў Беларусі - гэта найперш каталіцкія касцёлы і праваслаўныя цэрквы. Яны былі цэнтрам жыцця нашых продкаў, а ў выпадку небяспекі, яшчэ і сродкам абароны. Там хаваліся ў часы ваенных ліхалеццяў, захоўваліся архівы, заключаліся шлюбы, адпявалі памерлых.**

**Храмы заўсёды будаваліся на самым высокім і прыгожым месцы горада, або мястэчка.**

**Няшмат беларускіх гарадоў маюць столькі адметных помнікаў архітэктуры як наша Гародня. Цудам і гонарам несумнена можна назваць Барыса-Глебскую (Каложскую) царкву.**



На жаль, за часы савецкай улады шмат храмаў было знішчана, абрабавана, або іх выкарыстоўвалі ў якасці вясковых клубаў, збожжасховішчаў, ці ў іншых гаспадарчых мэтах.

Каб зацікавіць маладое пакаленне беларусаў да сваёй мінуўшчыны, я звярнулася з пытаннямі да краязнаўцы, доктара гістарычных навук **Алеся Краўцэвіча.**

*- Спадар Алесь, калі былі пабудаваны першыя цэрквы ў Гародні?*

Да 14 ст. у Гародні будаваліся толькі праваслаўныя храмы. Першыя цэрквы з'явіліся ў горадзе, па ўсёй верагоднасці, у другой палове 11 стагоддзя. Яны не захаваліся, паколькі былі ўзведзеныя з дрэва.

Найбольш значнае храмавае будаўніцтва ў сярэднявечнай Гародні разгарнулася ў другой палове - канцы 12 ст. Менавіта ў гэты час было ўзведзена некалькі мураваных цэркваў, з якіх толькі адна - у гонар святых Барыса і Глеба часткова ўцалела да нашых дзён.

Будаўніцтва мураванага храма ў часы сярэднявечча было вельмі каштоўнай справай і стала магчымым у Гародні ў 12 ст., дзякуючы эканамічнаму ўздыму горада і росту заможнасці яго жыхароў. Пра існаванне ў гэты час мураваных гарадзенскіх цэркваў сведчыць старажытны Іпацьеўскі летапіс, які паведамляе пра няшчасце ў 1183 г. "... Городен погоре всь и церкы каменая от блистания молние и шибения грома".

*- Вы казалі, што храмы таго часу былі драўлянымі, а хто быў ініцыятарам пабудовы мураваных храмаў?*

Несумненна, **ініцыятарамі** пабудовы першага мураванага храма сталі гарадзенскія князі з мясцовай дынастыі Усеваладкавічаў, звязаных крэўнымі сувязямі з князямі кіеўскімі. У сваёй рэзідэнцыі на сённяшнім Старым замку (старажытная назва - дзядзінец) яны збудавалі побач са сваім палацам сямейную царкву, дакладная назва якой навукоўцам засталася невядомай. Яна была адкрытая з-пад зямлі (на глыбіні каля 5-6 м) археолагамі ў 1932 г. і названая **Ніжняй**, паколькі над рэшткамі гэтага храма знаходзіліся руіны пазнейшай царквы канца 14 - пачатку 15 ст., названай археолагамі Верхняй.

Побач з дзядзінцам на сённяшнім Новым замку ў 12 ст. размяшчалася галоўная гарадская тэрыторыя - умацаваны "вакольны горад", дзе пад аховай валоў, ірвоў і іншых абарончых збудаванняў жылі найбольш заможныя гарадзенцы. Яны ў хуткім часе пасля ўзвядзення княскай царквы, замовілі ў сябе будаўніцтва **Уваскрасенскага храма**. Ягоныя рэшткі (кавалкі сценаў, маёлікавых плітак падлогі і крыжоў) былі знойдзены пад час археалагічных раскопак на Новым замку ў 1987 - 1988 гг. Назва гэтага храма стала вядомая, дзякуючы ўпамінанню яго ў дакуменце 15 ст.

У хуткім часе (а магчыма, адначасова з узвядзеннем Уваскрасенскага храма) адбылося будаўніцтва **Прычысценскай царквы** на пасадзе побач з вакольным горадам. Дакладнае вывучэнне гэтага храма праведзена археолагамі ў 1980 г. пасля выпадковага адкрыцця ягоных падмуркаў на тэрыторыі кляштара базылянак (вул. Давыда Гарадзенскага). Назва гэтага храма стала вядома дзякуючы ўпамінанню яго ў дакументах 15 - 16 стст.

Сярэднявечны дакумент называе таксама **Малую** царкву, якая размяшчалася на пасадзе каля Гараднічанкі (каля сённяшняга пажарнага дэпо на вул.Вялікай Траецкай). Магчыма, гэты храм таксама быў узведзены ў 12 ст. Рэшткі яго пакуль не выяўленыя.

Апошнім па часе ўзвядзення гарадзенскім мураваным храмам 12 ст. стала знакамітая Б**арысаглебская царква,** вядомая таксама як Каложская (па назве мясцовасці, дзе яна размешчана). Даследчыкі вызначылі гэта па больш дасканалай тэхніцы будаўніцтва гэтага храма ў параўнанні з папярэднімі. Напрыклад, дэкаратыўныя камяні са шліфаванай вонкавай паверхняй у Ніжняй царкве былі вельмі вялікімі і займалі амаль усю таўшчыню цаглянай сцяны, у якую ўмуроўваліся. Гэта аслабляла трываласць сценаў і пры дадатковай неахайнасці падчас перавязкі швоў (прамежкі паміж асобнымі цаглінамі ў радзе ча-

сам супадалі ў некалькіх радах па вертыкалі), прывяло да ранняга разбурэння храма - у 14 ст. Ніжняя царква ўжо ляжала ў руінах.

Затое ў Каложскай царкве гэтыя недахопы ўжо выпраўленыя (каменні займаюць сама болей палову таўшчыні сцяны, перавязка швоў усюды дакладна вытрыманая), таму яна нягледзячы на разбурэнні і частковы абвал у Нёман датрымалі да нашых дзён.

Усе гэтыя мураваныя храмы 12 ст. даследчыкі залічаюць да гарадзенскай архітэктурнай школы, якая не мае аналагаў у свеце і таму з'яўляецца ўнікальнай. У параўнанні з іншымі школамі мураванага дойлідства Старажытнай Русі (Полацкай, Смаленскай, Кіеўскай, Чарнігаўскай і інш.) гарадзенская самая невялікая. Акрамя названых цэркваў вядомы яшчэ мураваны княскі церам і частка абарончай сцяны на дзядінцы, а таксама недабудаваны храм на Замкавай гары ў Ваўкавыску.

*- У чым адметнасць гарадзенскіх храмаў?*

Адметнасць заключаецца ў будаўнічай тэхніцы (асаблівая сістэма муроўкі, скошаныя вуглы слупоў і сцен, размяшчэнне купала над заходняй часткай храмаў, увядзенне ў муроўку збаноў-галаснікоў і інш.) і надзвычайна багатым дэкаратыўным убранні знешняй паверхні сценаў. Шліфаваныя камяні, падабраныя па каляровай гамме спалучаюцца з крыжовымі кампазіцыямі, выкананымі з жоўтых, зялёных, карычневых маёлікавых плітак. З падобных па колеру плітак былі выкананыя багатыя дэкаратыўныя кампазіцыі на падлогах храмаў. Сістэма ўбранства інтэр'еру гарадзенскіх храмаў была пабудавана на кантрасце ружова-белых сценаў (ружовыя шэрагі цаглінаў і белыя выгладжаныя швы з вапнавай расчыны) з каляровай маёлікакай падлогай і залатой алтарнай перагародкай.

Для прыхаджанаў, большасць якіх жыла ў маленькіх, амаль не асветленых хатках (плошчай каля 12 кв. м), наведванне прасторных і па-мастацку ўпрыгожаных гарадзенскіх храмаў з іх вясёлкавымі сценамі, таямніча зіхацеўшымі ў паўзмроку падлогамі, выразнымі і ўрачыстымі гукамі богаслужэння (дзякуючы галаснікам у сценах), несумненна, было сапраўднай падзеяй.



*- Ці вядуцца археалагічныя раскопкі руін сярэднявечных цэркваў і якія былі знойдзены артэфакты?*

**Ніжняя царква**

Знаходзілася на Замкавай гары. Руіны адкрытыя археолагамі ў 1932 г. Сцены захаваліся на вышыню да 2 - 3,5 м. Храм шасцістоўпны, памерам 18,4 х 11,7 м. Купал знаходзіўся над заходняй парай слупоў. Усе слупы квадратныя са зрэзанымі вугламі. Удалося рэканструяваць складаны ўзор падлогі ў падкупальнай прасторы, набраны з featured рознакаляровых фігурных плітак.

Звонку ў муроўку сценаў уведзеныя шліфаваныя камяні, керамічныя пліткі і круглыя сподкі.

**Прычысценская царква**

Руіны адкрытыя на тэрыторыі былога кляштару базылянак у 1980 г. Памеры храма 19,1 х 12,7 м. Ён трохнефны, шасцістоўпны, падкупальны квадрат утвораны заходнімі слупамі. У цэнтральнай апсідзе захаваліся цагляныя асновы прастола і горнага месца.

Знойдзены рэшткі пліткавай падлогі. Сцены звонку ўпрыгожваліся камянямі з адной шліфаванай паверхняй і керамічнымі пліткамі.

**Уваскрасенская царква**

Пад час раскопак 1987 - 1988 гг. на Новым замку знойдзеныя блокі цаглінаў-плінфаў 12 ст. у тым ліку фігурных, фрагменты маёлікавых плітак. Дакладнае месцазнаходжанне храма пакуль не выяўлена.

**Барысаглебская царква**

Захавалася паўночная сцяна (не на поўную вышыню), палова заходняй, дзве апсіды, заходняя пара круглых падкупальных слупоў. Паўднёвая і частка заходняй сцяны храма ўпалі ў Нёман, падмытыя высокай вадой у 1853 г., у 1889 г. абрушылася і паўднёвая апсіда.

Храм шасцістоўпны, памерам 21,5 х 13,5 м. Таўшчыня сценаў каля 1,2 м, унутраная іх паласць запоўненая цагляным ломам і дробнымі камянямі. Знешняя паверхня сценаў дэкараваная камянямі са шліффаванай паверхняй і маёлікавымі пліткамі. У муроўку ўведзена мноства збаноў-галаснікоў. Падлога была выкладзена з маёлікавых плітак. Вокны размяшчаліся толькі ў верхняй частцы сценаў.

**Ларыса Ішчанка**



# Паленне

**Апавяданне Паўла Севярынца “Паленне”-гэта невялікі сповяд аўтара за канкрэтны перыяд яго жыцця. Творца трапна адлюстроўвае настрой, дзейнасць і характар той часткі маладых людзей, што рыхтавалі сябе да барацьбы за свабоду Бацькаўшчыны. Чытайма разам!**

**Так мы пачыналі.**

Гэтыя тыдні я ўспамінаў маіх хлопчыкаў у менскіх кадрах, якія ўжо абышлі паўсьвета. Увесь гэты час, штодня, іх паўтаралі зноў і зноў. Успыхвае, сьлепіць пражэктар, людзі, прыгнуўшыся, адбягаюць ад вокнаў Палацу; маладыя, амаль дзіцячыя бледныя твары мільгаюць ля самае камэры — і раптоўна за іхнымі сьпінамі, ля будынку, усё азарае выбух. Карцінка страсаецца, зь ёю сыпецца па нахільнай натоўп, рыне праз парк, паўз Дом афіцэраў... Цераз імгненьне дрэвы прашыюць іскрыстыя трасэры, камэра рэзка праваліцца ў цемру, і вынырне толькі раніцай на скрыжаваньні, дзе мерзьне патруль.

Той далёкай халоднай восеньню мы прападалі ў Траецкім, у Гістарычным клюбе. Увесь час распахнутыя дзьверы са мноствам шыльдачак, поўна народу. У захапляючым беспарадку згруджаныя калекцыі цудаў. Шматвякавыя жалязякі, выкапаныя дзесьці пад Крэвам, уперамешку з манэтамі й ніткай рачных пярлінаў, з шыкоўным, памерам з абрус, слуцкім пасам — проста ў шуфлядзе, выламанай са стала. Навалам кіпы фотаархіву зь нядаўняй гісторыяй маніфэстацыяў. І тут жа, у залочанай раме, карціна зь нясьвіскага замку, аб якую не спатыкнуцца б. Усе гэтыя скарбы пастаянна перамяшчаліся, шарахаліся з рэхам; іх разгружалі; назаўтра зносілі й прывозілі штосьці яшчэ. Трэба было пасьпець перабраць, абглыдаць вачыма й са сьлінаю скаўтнуць ураджаньне.

Што да кнігаў, дык гэта было для мяне страсеньнем. Я трымаў у руках ветхі, па лісьціках, сапраўднік скарынінскай Бібліі, якой паўтысячы гадоў, гартаў калясальныя слоўнікі, поўныя выразумленных словаў, і рассмакоўваў беларушчыну, выдадзеную за мяжой — з настолькі мяккімі знакамі, што язык сьцінаўся ад кісьлі.

Там ходырам хадзілі людзі, якіх мы яшчэ ў школе вывучалі, тыя, хто падымаў мнагатысячныя дэманстрацыі. Уразнабой шумелі важнейшыя перамовы й гаворкі пра тое, як учора квасілі. Столькі слыннага народу міналася ў дзьвярох і вузкім калідорчыку, столькі рукалася й адмыслова не падавала рукі; так заўзята палілі, аж дым курэў у дзясятак ствалоў... Нам заставалася толькі цікаўна паблісквацъ вачыма. Ціхія дзядзькі, якія канцылярылі ў клюбе, рабілі на ўсіх гарбату — слабенькую, каб хапіла заваркі й кубкаў, і мы з удзячнасьцю прысёрбвалі гарачанькае дзесь у кутку, на краёчку крэсла. Ня ведаю, у якіх піўных барах пачыналі калісьці Ірляндыя й Чэхія — Беларусь падымалася ў такіх вось прадымленых памяшканьнях, сярод людзкой сумятні й землянога жалезьзя, куды забрыдалі пагрэцца студэнты з вуліцы, і слабенькай гарбаты было на ўсіх.Там я пазнаёміўся зь Белым — адным са страшнейшых маіх сяброў. Сёньня мы да яго яшчэ зойдзем.

Там слухаў Паўлея, вусатага,



жылістага геоляга. Ён аб’езьдзіў ці ня ўсе беларускія сельсаветы з пробамі грунту, і з кожнай пробай у яго былі поўныя кішэні карыснае драбязы, мясцовых звычаяў ды гісторыяў. Ён прыпамінаў усё да вёсачкі, паказваў межы княстваў і шляхі вялікіх паходаў; грунтоўна, пераканаўча, рукамі зграбаў узгоркі й разраўноўваў лугавіны. Трэба было бачыць гэтыя чэпкія грубаватыя пальцы, быццам карэньне, толькі што вырванае зь зямлі, з брудам, які ўеўся ў скуру й пазногці. Гэта ён сказаў —памятаю, мы палілі на ганку Траецкага, ён стросваў попел... Ты чуў, яны ўсе за народ змагары, гаварыў Паўлей, гаркавата сплёўваючы, а вось пра гэтую зямлю ніхто не падумаў.Там быў Валер Бондар, інтэлігентны, артыст, які валодаў ня менш як дванаццацю эўрапейскімі мовамі. Было адно задавальненьне назіраць, як вытанчана, па-птушынаму шчабеча ён, праз тэлефон зь якімсь партугальцам; як ганарыста, зь якім намаганьнем твару, прынароўлівае невымоўнараманскі пранонс, ці шпрэхае, хуценька, з трафэйным прыдыханьнем. Дык вось, яго найвышэйшым шыкам было загнуць на людзях што-небудзь па-расейску — выключна аслупянелым, нечалавечым матам, ды так, што аж за вушамі трашчала й навокал са сьмеху надрывалася ўсё жывое.- Так, мы вучыліся насупраць Расеі. Мы ведалі, ад каго окаянная Масква пераняла абыкнавеннае аканьне, адкуль да яе прыходзілі кнігі й шрыфты. І хто потым з падзякай высаджваў дзьверы ў Эўропу, хто адкармліваў аграмадныя таленты на нашых скарбах і словах.Чортава прыкрасьць. Чужы язык варушыўся ўва мне ад самага нараджэньня. Халопскае прыніжэньне — увесь час адчуваць гэты прысмак фальшу, гэты цьвёрды знак напрыканцы словаў... Ён застаецца, заўсёды пад языком, аддае нечым штучным і непатрэбным, яго не абломіш з канчаткаў. Так ня вынішчыць сьвятога мяккага знаку зь беларускага напісаньня. Зрэшты, вось табе й розьніца. Уся рэч у чым — ці ў нашай мяккасьці, ці то ў іхнай грубай цьвёрдасьці.Мы былі ўпэўненыя: з нас хопіць. Мы крычалі гэта на мітынгах, мы засьвіствалі расейскую тэлевізію; зь нянавісьцю, зь мясам ірвалі каўнеры, ідзі-ка сюды, уёлавак, паўтары, што ты сказаў наконт нашае мовы, быдла!..Толькі калі я прыходзіў дамоў, сумятня асядала ў глыбінях душы. Зьмяркалася. І станавілася зразумела, што папраўдзе магутнасьць Расеі — у гэтай цішыні, дзе пакояцца кнігі. Там было логва дракона.І тады я рашыўся. З такою сілай варта сысьціся насьмерць. Супраць усіх і самога сябе — бойня, дастойная маладосьці. Вораг быў страшны, тым больш! Як яго перамагчы, герой ня меў ані малейшага ўяўленьня, але дух займала ад вышыні й непадымнасьці. Маладыя, дзёрзкія сілы дрыжэлі. Быць бітве.

### Гэтая тайна і стала маім прызваньнем.

Я пачаў перакладаць сябе самога, размаўляючы ўслых; я практыкаваўся на любімых песьнях, быццам на жабках. Перапалохаў бацькоў сваім імгненным і неспасьціжным пераходам на родную мову. Патаемна, паўшэптам плянаваў сакрэтныя апэрацыі, штурмы й распраўы — у чытальных залях, у прыціхлых студэнцкіх аўдыторыях. Спасьцігаў азы моўнае магіі й выкшталцона, з асаблівым цынізмам, зьдзекваўся з маладзенькіх прадаўшчыц у шапіках. Здавалася, на мяне падазрона глядзяць праходні. Я пасьпяваў і ў Траецкае, на начную расклейку ўлётак, і ранкам быў ва ўнівэры, рассоўваючы нелегальныя ксэры па партах. Я ледзь спаў, дыхаў адной барацьбой і быў проста апоены тым, што такі да ўпору зараджаны й моцны.Там, за валдайскімі даляглядамі, Імпэрыя ўжо павінна была адчуць маё небясьпечнае варушэньне... Устрывожыцца зь весткай аб новым нязьведаным ворагу, і раптам дрогнуць ад прадчуваньня ў самым сваім подлым сэрцы.

# Прыпынак, аўтобус, лецішча

Ехаў днямі на дачу. Да чаго ж цікавае падарожжа чакала мяне на працягу якой паўгадзіны часу. Наш народ, а на лецішчы едуць зараз пераважна пенсіянеры, вельмі інфармаваны і дасціпны люд. Асабліва “інфармаванасць “ прэ, калі грамадзяніна, ці грамадзянку зачапілі як кажуць за жывое.

Вось прыклад, паездка на дачу аўтобусам №25. Шчыравала дзябёлая кабета так:” Дыбілы яны, не маглі пусціць аўтобусны маршрут далей, а зрабілі  дадатковы, але камерцыйны. Дулю мы ім будзем плаціць лішняе , мы гэтыя лішнія кіламетры пройдзем лесам  напрамкі”.

Да слоў рэяводкі нечакана  з глыбінь салона далучыўся мужчынскі голас :” Яны насамрэч дыбілы, ездзяць, на службовых і не разумеюць карысці,што могуць зрабіць людзям зрабіўшы працяг маршрута на якія паўвярсты”.

Адразу ж да дыскусіі далучылася яшчэ адна дачніца:” Што ім , яны маюць гэтых службовых аўто па некалькі . Ім няма часу думаць пра людзей, ім што , катайся сабе. А мы тут выкручвайся дзеля эканоміі, паглядзіце колькі каштуе квіток, ездзіць жа трэба цэлае лета. Так што гэтыя нашы гурочкі, таматы становяцца коштоўнай ежай. Ім жа ўсё паднясуць задарма, навошта апрацоўваць грады.

Я ехаў, слухаў і думаў, трэба ж гэтым дзядулям і ба́булям адпрацаваўшым ўсё жыццё на цяжкіх работах вось так ездзіць пры мінімальным камфорце. Думаць як вырасціць агурок, цыбуліну, памідор, каб ў зімку можна было паласавацца саленнем. Калі надыдзе той час, што ім выплацяць дастойную пенсію тыя, за каго яны галасавалі, каму аказвалі давер, і цяпер вось так “ ласкава” называюць словам, якое найчасцей можа пррагучаць як дыагназ  з вуснаў спецыяліста-медыка.

# Спорт

## Смерць у Туле

Беларуская велагоншчыца Паліна Жук ад атрыманых траўмаў памерла ў шпіталі расейскага горада Тула.

Дваццацігадовая беларуска ўдзельнічала ў велатуры " Вялікі прыз Тулы". На адным з віражоў яна няспраўілася з кіраваннем веласіпеда, ўпала і ўдарылася галовою аб бетонны бардзюр.

Лекары не змаглі выратаваць спарцсменку.

## Ганчарэнка пазастаецца на месцы

Самы фартовы беларускі трэнер Віктар Ганчарэнка застаецца ў Барысаве.

Прэс-служба маскоўскага футбольнага клуба "ЦСКА" абвергла інфармацыю аб перамовах са спадаром Ганчарэнка –працягам яго кар"еры трэнера ў гэтым расейскім футбольным клубе.



# Зняславіліся

І цяпер функцыянеры ўсіх ўзроўняў , самі гульцы Нацыянальнай зборнай па хакеі ня ў стане даць дакладнага тлумачэння правалу дзяржаўнага спорту №1 на нядаўнім чэмпіянаце свету.

Аднак дасведчаныя назіральнікі адразу далі на мой пагляд дакладную фармуліроўку хваробы, дзекуючы якой здарыўся правал. Найперш-гэта маральна-псіхалагічнае надвор"е ўнутры калектыва. Дэмарш Мезіна існае падцверджанне. Наёмнік-трэнер зусім не разумеў душаў тых , хто па пашпарту і месцу нараджэння беларус, а хто натуралізаваны грамадзянін хакейнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Нежаданне, няўменне і абыякавасць амаль ўсіх гульцоў наводзіць на думку, што наш хакей дакаціўся да свайго эндшпілю, яго салаўіная песня спета. На класе зараз без жадання бароцца на кожным сантыметры пляцоўкі перамагчы нельга . Ў элітнай лізе Сусветнага хакею ўсе класныя. Спасылкі на слабы рэзерў- гэта толькі спасылкі, хто забараняў чыноўнікам займацца падрыхтоўкай рэзерву ў мясцовых юнацка-дзіцячых хакейных школах.? Хацелася выніку? Давай натуралізацыю, а гэта штучны шлях, які і прывёў ў некуды.




Дарэчы, кіраўнік Федэрацыі хакею спадар Ворсін падаў у адстаўку. Ці будзе яна прынята -гэта зусім іншае пытанне . Яшчэ адзін клуб ад Беларусі ў Кантынентальнай хакейнай лізе пад корань падсячэ інтарэс аматараў да гэтага віда спорту ў рэгіёнах.



Свабоднае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.
Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты
Наклад 299 паасобнікаў
Адказны за выпуск: Георг Нёман